# Самапомач Samapomač

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

Год VII. Вільня, Красавік 1938 г. № 4 (78).



Аб чым піша «Самапомач»:



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Ці гэта „чэсна“ і „шчыра“?

Цэнтральны орган сялянскага сэктару ОЗН'у „Wieś Polska“ (№11), у артыкуле „З чым ідзём на ўсходнія землі?“, бядуе, што мясцовая „вялікая маса“ беларускага сялянства да ўсіх пачынаньняў у кірунку польскіх арганізацыяў захоўвуецца **зімна і недаверчыва**. Гэты стан ОЗН-аўцы хацелі-б пераламаць і спадзяюцца, што ім гэта ўдасца, бо — як самі даслоўна пішуць — стаўляюць справу „чэсна і шчыра“ („uczciwie i szczerze“).

Заявіўшы гэта, далей „Wieś Polska“ піша даслоўна так:

*„Плашчынёй да паразумленьня і супрацоўніцтва ёсьць перад усім справа абароннасьці краю, зразуменьне канешнасьці супольнай абароны роднага загону, з каторага ўсходні вораг ахвотна нас выгнаў-бы. Далей ідзе супольная праца над падняцьцем гаспадарчым і культурным занедбаных гранічных („крэсовых“) земляў“.*

Гэтулькі суліць ОЗН для нашага беларускага сялянства. Але і гэта яшчэ ня ўсё, бо вось далей там яшчэ чытаем:

*„Ня хочам адбіраць ад масаў („ludu“, не „narodu“ — рэд.) беларускіх іхняе мовы і веры. Хочам, каб культура людовая (не „narodowa“ — рэд.) была так, як культура людовая іншых земляў Рэчыпаспалітай — скарбніцай, з каторай чэрпае культура агульна-нацыянальная (—польская?—рэд.). Хочам, каб разьвівалася свабодна, ачышчалася ад усякіх сьлядоў чужога ей духа расейскага (толькі? — рэд.), знаходзіла сваё даўняе аблічча“.*

І яшчэ далей цэнтральны О.З.Н-аўскі орган паклікаецца на словы шэфа Абозу ген. Ст. Скварчынскага, які сказаў, што

*„палітыка Абозу пойдзе па лініі... будовы і паглыбленьня адналітнай культуры ў рамах Польскае Дзяржавы. Асаблівасьці культурныя ў граніцах інтарэсаў Рэчыпаспалітай дастануць успамогу. Але жаданьні і чыны ськіваныя процiў інтарэсаў Дзяржавы ня могуць рахаваць на паблажлівасьць“.*

Гэтулькі напісала „Wieś Polska“ ад сябе самой і ад галоўнага свайго камандзера. З ведамых прычын не адважымся тут пусьціцца да паясьненьня гэтых як-ні-як а сягоньня для нас вельмі важных прызнаньняў. Думаем аднак, што чытачы нашы самі добра зразумеюць, што значаць вышэйпададзеныя словы. Ясна й выразна кажуць яны, што сюліць нам беларусам ОЗН у галіне культуральнай: „ачышчацца ад усякіх сьлядоў чужога духа расейскага“ патое, каб „будаваць і паглыбляць адналітную культуру ў рамах Польскае Дзяржавы“.

Нас аднак найбольш цікавіць тое, што сюляць беларусам О.З.Н-аўцы ў галіне гаспадаркі. А тут яны якраз найменш гутарлівыя. Афіцыяльна яны заклікаюць да „супольнай абароны роднага загону“, а ў жыцьці сапраўдным ужо дамагаюцца спыненьня зямельнай рэформы (Стоўпцы!), аб чым нават выносяць адпаведныя пастановы (Сьвянцяны!).

Усяго гэтага не аднаму пакажыцца можа йшчэ мала, каб сказаць у гэтай справе „апошняе слова“. Вось-жа чаго не даказалі ОЗН-аўскія дзеячы проста, тое зрабілі ўкосна й пасярэдна. Даволі адзначыць, што спосаб падыходу да справаў нашай самастойнай культуры моцна падцінае веру ў шчырасьць і іхніх абяцанкаў гаспадарскіх. Усё-ж разам кажа моцна прызадумацца аб тым, колькі праўды крыецца ў запэўненьнях, аб якіх мова вышэй. Тымбольш, што словы паказваюць адно, а жыцьцё — зусім другое.

# Рэвалюцыя цэнаў

На рынку земляробскім узноў маем рэвалюцыю. Больш-менш зносныя цэны на земляробскія прадукты, па годзе часу узноў моцна ўскалыхнуліся, асабліва на ўсякае збожжа. Меншыя маём цэны ўжо сёлета і на мясную жывёлы, чым гэта было летась. Дзе крыюцца прычыны ўсяго гэтага?

Тымчасам ёсьць прычыны дзьве: гаспадарчая і палітычная. Абедзьве яны па ўсім сьвеце цесна з сабой спалучаны.

Тон усяму надае пшаніца. Летась з выняткам Канады ўрадзіла яна ўсюды даволі добра. Падрахована, што на цэлым сьвеце ўраджай гэты летась быў на 80 міл. q вышэйшы, чым пазалетась. Гэта надвышка спачатку нікога лішне ня пужала, бо ўсе спадзяваліся, што гэтыя лішкі будуць выкуплены для войска, якое пачало ўсюды моцна збраіцца. Але гэтыя спадзяваньні неяк не апраўдаліся, што аднак зусім ня знача, каб сьвет перастаў прыгатаўляцца на выпадак вайны. Да ўсяго гэтага на сусьветны рынак была кінена йшчэ маса пшаніцы аўстралійскай, якая звычайным парадкам ішла ў Японію і Кітай. Гэтак паўстала цяжкая сытуацыя: на рынку аказалася больш пшаніцы і зьменшылася на яе запатрэбаваньне. Усё разам кінула на рынак лішнія 100 міл. q пшаніцы і гэта заважыла на ейнай цане і ў Польшчы.

Тут аднак на дадатак знайшліся йшчэ прычыны мясцовыя, якія таксама адбіліся на цане пшаніцы. Па леташняй забароне вывозіць збожжа сабраўся ў краю вялікі запас. Пад уражаньнем гэтай забароны людзі перасталі так-жа збожжам карміць жывёлу. І цяпер раптам ўсё гэта аказалася непатрэбным. Ад 1 красавіка сёл. забарона вывазу была зьнята, але і заграніцай гэтага тавару поўна, а даўнейшыя рынкі заняў ужо хто іншы. Вот-жа ўся надвышка гэтага запасу вярнулася на краёвыя рынкі, дзе й пачала сільна цісну́ць на тутэйшыя і без таго ўжо нізкія цэны. Сягоньня вытварылася такая сытуацыя, што цэны на збожжа аказаліся меншыя чым былі яны зразу па жніве. А кажуць, што калі на сьвеце нічога ня зьменіцца, дык гэтыя цэны будуць ападаць яшчэ і далей.

Што з усяго гэтага можа выйсьці? Тымчасам дробныя сяляне, якія збожжа на прадаж наагул ніколі ня маюць, або якія калі яго й мелі, дык ужо даўна прадалі, такія—паўтараем—сяляне на гэтай „рэвалюцыі“ цэнаў тымчасам нічога ня трацяць. Трацяць затое сяляне мацнейшыя, трацяць маёнткі, ну і ўсякія спэкулянты, якія ўвосені збожжа скуплівалі з надзеяй заработку вясной.

---

# F. V. Raifajzen
## dabradziej biednych.

Sioleta ŭ sakaviku m-cy minuła 50 hod ad dnia śmierci i 120 hod ad dnia naradžeńnia ideoloha i zakładčyka ziemlarobskaj kooperacyi, Frydrycha - Vilhelma Raifaizena (Friedrich-Wilhelm Raiffeisen). Z hetaje pryčyny ŭvieś kulturny śviet uspomniŭ Raifajzena i jahonyja zasłuhi dla čalaviectva. Uvažajem za patrebnaje abznajomić z hetaj niazvyčajnaj asobaj i čytačoŭ našaj „Samapomačy“.

Vierniemsia ŭ dumkach svaich roŭna 90 hadoŭ nazad. Hady 1845-46 u Zach. Eŭropie byli nieŭradžajnyja i tamu nastupnyja hady byli hałodnyja. Tymbolš što na hetu paru prypadaje masavy davoz tannaha zamorskaha zboža, jakoje da rešty źbivała ceny na zboža miascovaje. Ziemlarobstva stanaviłasia da rešty niavypłatnym, załaziła ŭ doŭh... Daŭhi — cisnuli i z haspadaroŭ stanavilisia batraki.

Hetki prynamsia abraz pradstaŭlała sialanstva zachodnich niamieckich pravincyj z-nad raki Rejnu ŭ toj čas, kali tam pačaŭ svaju pracu Fr. V. Raifajzen. Radziŭsia jon u 1818 h., u siam'i biednaha vojta. Dzied-ža jahony byŭ lutaranskim pastaram. Ad baćki astaŭsia Frydrych Raifajzen małym chłapcom i jak taki bolšaj navuki zdabyć nia moh; končyŭ tolki pačatkavuju školu i davučyvaŭsia ŭ miascovaha pastara. Nia mohučy dalej vučycca, užo 17-ci hadovym chłapcom pastupiŭ Fr. achvotnikam u vojska. Vajskovyja ŭłady źviarnuli ŭvahu na maładoha kandydata i addali jaho vučyć u siaredniuju vaiskovuju školu ŭ Koblency. Pa skančeńni hetaje škoły słužyŭ Fr. R. niej-

Усё гэта маючы на ўвазе ў дробных гаспадарках трэба перад усім так астаўляць севазварот, каб гаспадарка гэта кругом была самавыстарчальнай, г. зн. побач са збожам трэба мець дастатак пашы для ўсей хатняй жывёлы. А далей — востра сьлядзіць у гаспадарскіх часапісах за далыцым разьвіцьцём цэнаў.

Абшарніцкія саюзы гаспадарскія ўжо дабіваюцца ад ураду падвышэньня цэнаў на збожа. Дробныя гаспадарымаглі-б да гэтага жаданьня далучыцца толькі тады, калі з парцэляцыі двароў маглі-б дастаць прырэзы, на якіх такое збожа на продаж маглі-б гадаваць. А бяз гэтага— пешы коннаму не тарарыш.

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

## Упарадкаваньне парцэляцыі прыватных маёнткаў.

Шмат хто з тых, што па вайне кінуліся купляць зямлю з парцэляцыі прыватных маёнткаў, апынуліся з часам у прыкрым і нявыразным палажэньні. Думаю тут аб тых, што зрабілі ў сваім часе толькі запрадажныя, даўшы за гэта частку, а то і ўсю вартасьць, не дабіўшыся аднак пераводу на сябе права ўласнасьці на купленую зямлю. У гэткім выпадку ўласьнікамі распарцэляванай зямлі фармальна пастарому асталіся ўласьнікі маёнткаў. У гэтым, здавалася-б, малая бяда. Але так яно ня ёсьць, бо, пакідаючы на старане ўсё іншае, ў такім выпадку на купленай зямлі ляжаць фармальна ўсе даўгі маёнтку, за якія нованабыўшчык можа быць нават зліцытаваны і прагнаны з свайго купленага загону.

Звычайным парадкам зрабіць перавод уласнасьці на набытую зямлю, гэта справа і зацяжная і нават каштоўная, асабліва сягоньня. Дзеля гэтага было выдана шмат законаў і распараджэньняў, якія даюць магчымасьць гэты перавод зрабіць спосабам скарочаным, але толькі для тых, хто купіў зямлю з прыватнай парцэляцыі прад 1 студнем 1936 г.

ki čas u vojsku, u artyleryi, jak padaficer. Majučy adnak słabyja ad pryrody vočy, musiŭ chutka vojska pakinuć i pierajści da służby administracyjnaj. I tut jak raz sudžana było Fr. Raifajzenu spatkacca z tymi pytańniami žyćcia, razviazka jakich uviekaviečyła jahonaje imia. Jak heta stałasia?

Skazana było ŭžo, što Fr. Raifajzen, vyjšaŭšy z vojska, pačaŭ novaje žyćcio ŭ haładajučaj vioscy. Losam hetaj vioski musiŭ cikavicca ŭžo jak samaŭradaviec. Ale heta była-b tolki suchaja farmalnaść, „kancelarščyna“, a Fr. Raifajzen byŭ čałaviekam hłyboka-dumajučym i čutkim na ludzkuju biadu. Jon nie ahraničvaŭsia tolki tym, što nakazvaŭ jamu zakon, ale sam šukaŭ jak moh i razumieŭ sposabu pomačy.

Pačałosia ad arhanizavańnia dabradziejnaha tavarystva, jakoje z zaparukaj bahaciejšych sialan kuplaje na pavier muku, arhanizuje hminnuju piakarniu, vypisvaje inšyja charčy i pa tannych cenach pradaje ich sialanam, vyryvajučy ich hetak z ruk roznych niasumlennych lichviaroŭ. Hetkija tavarystvy arhanizavany byli ŭ inšych miascoch, pry čym za kožnym razam takoje tavarystva charaktaram svaim prybližałasia da tavarystva samadapamahovaha. Pry hetym pobač z pomačaj biednym, apiekaj nad sirotami i inš.; pačynali hetyja tavarystvy davać patrabujučym sialanam drobnyja pazyki hrašmi, vymahajučy dvuch varunkaŭ: kab za takija pazyki paručylisia prynamsia dva peŭnyja haspadary i kab pazyčanyja hrošy pajšli tolki na pašyreńnie haspadarki.

Z hetych, spačatku dabradziejnych, paśla samadapamahovych tavarystvaŭ paŭstaŭ specyjalny typ tavarystvaŭ ziemlarobska-kooperatyŭnych, hałoŭnym čynam

Справу гэткіх пераводаў трэба кіраваць у Суд ня проста, а цераз належнае (сваё) Старастве (зямельнага камісара). Да такой просьбы да камісара трэба далучыць гэткія дакуманты:

1. Копію гіпотэчнага выказу таго маёнтку, з якога куплена была зямля, або, калі маёнтак гіпотэкі ня мае, дык копію дачаснага рээстру;

2. умову ў справе куплі (запрадажную);

3. усе квіты на заплачаныя грошы на рахунак належнасьці за зямлю;

4. пасьведчаньне грамадзянства (пашпарт).

5. пляны купленай зямлі і ўсякія іншыя дакуманты, якія адносяцца да гэтай-жа зямлі. — Калі які-небудзь з гэтых дакумантаў ужо знаходзіцца ў Старастве ці ў Ваяводзтве, дык трэба падаць, калі гэты дакумант туды быў пададзены і пры якой справе. Просьбы гэткія і залучнікі не падлягаюць ніякім штэмплёвым аплатам, але вымагаюць залічак на кошты пастунаньня ў судзе. Сума гэтых коштаў (найменш 100 зл.) залежа ад колькасьці пакупцоў і ад велічы грунту абнятага гэтым паступаньнем: таму пакупцы зямлі з аднаго маёнтку, ва ўласным інтарэсе, павінны весьці сваю справу разам.

Калі запрадажная была зроблена ў міжчасе ад дня 28.IV.1924 г. да 1.VII. 1932 г., дык суд можа зьменшыць суму, якая асталася йшчэ да заплаты, але толькі ў такім выпадку, калі справа дастанецца ў Суд (не ў Старастве) найпазьней да 31.XII.1938 г. Рэшта сумы грошаў, якая асталася да аплаты, падлягае абніжцы толькі тады, калі яна вышэйшая, чым цана за зямлю з парцэляцыі маёнткаў казённых.

Адначасна з пераводам права ўласнасьці Суд звальняе купленую зямлю і ад гіпотэчных даўгоў, якіх нованабыўца не забавязваўся пераймаць на сябе. Суд ня можа аднак звольніць ад аплатаў на карысьць скарбу і доўгасрочных пазычак.

Пры апісаным тут пераносе права ўласнасьці штэмплёвыя самаўрадавыя аплаты выносяць толькі чацьвертую часьць тых аплатаў, якія бяруцца пры нормальным абароце зямлёй, знача 1 зл. 60 гр. за кожныя 100 зл. вартасьці купленай зямлі.

Урэшце, калі Суд перавядзе ўжо права ўласнасьці, тады Ваяводзтва (Аддзел Зямельны і Вэтэрынарыйны), на жаданьне ўласьніка, можа ўстаноўленае права ўласнасьці правесьці і праз гіпотэку. Аплаты за гэта лічацца на палову меншыя, чым калі-б прыйшлося гіпотэку закладаць самому беспасярэдна.

Г. Ф.

---

aščadnicka-pazyčkovych, jakija z časam pašyrylisia na całym śviecie.

Padčas, kali na karyść abiadnieŭšych sialan u Niamieččynie pracavaŭ Fr. Raifajzen, siarod takich-ža ramieśnikaŭ i rabotnikaŭ pracavaŭ sudździa Herman Šulce z Delič. Abodva hetyja pracaŭniki mieli adnu metu: pamahać biednym i najbiadniejšym, ale pracavitym i česnym ludziam. Inšaje adnak u kožnaha z ich było asiarodździe: u Raifajzena—siało, a ŭ Šulce—miesta, mieła rašučy ŭpłyŭ na charaktar ichniaj pracy. I adzin i druhi pracavaŭ pierad usim u halinie pazyčkova-aščadnickaj. Roźnica miž imi ŭ tym, što

1. Kooperatyvy Raifajzena abyjmajuć zusim mały abšar (adno bolšaje ci niekalki mienšych siołaŭ), najčaściej rajon adnaje parachvii; a Šulce abšaru svaje kooperatyvy hetak nie abmiažoŭvaŭ.

2. Mały abšar dziejnaści kooperatyvaŭ Raifajzena nie vymahaje ŭtrymoŭvańnia płatnaha personelu. Tamu hetyja kooperatyvy pracujuć tanna, nizka apracentoŭvujuć pazyki, dobra zabieśpiačajuć*) układy (aščadnaści). Navat pajoŭ („udział‘aŭ“) Raifajzen pryjmać nie chacieŭ i zhadziŭsia na ich tolki tahdy, kali da hetaha byŭ prymušany niamieckim kooperatyŭnym zakonam. Ale i tady hetyja pai byli vielmi nizkija, „dziela pryliki“, u toj čas jak pai ŭ kooperatyvach Šulce byli jak tolki možna vysokija i vysoka apracentavanyja.

3 Kooperatyvy Šulce vydavali pazyki karotkaterminovyja i na veksli, zusim nia cikavilisia, na što pazyka biarecca, cikaviačysia tolki, kab pazyčanyja hrošy byli dobra zabiaśpiečanyja. Raifajzen, peŭna-ž, cikaviŭsia taksama, čym i jak zabiaśpiečvajucca davanyja pazyčki, ale jon cika-

*) nieahraničanaj parukaj usich siabroŭ kooperatyvy.

# Гадаваньне канапель.

Гадаваньне канапель набірае што раз большага значэньня. Аб прычынах гэтага зьявішча тут гаварыць ня будзем і прыступім проста да справы.

Канаплі вымагаюць добрага грунту, як што да мінэральнага, так і арганічнага складу, а так-жа што да самай будовы глебы. Найлепш удаюцца канаплі на чарназёме, на лёсавых глебах, на новаўзараных наплывовых глебах і на такіх-жа пасьбішчах.

На пульхных грунтох, пескаватых з глінаю ды на суглінках канаплі растуць вялікія і даюць харошае, моцнае валакно — калі толькі пашанцуе дастатак вогкасьці (сырасьці) і наагул адпаведна доўгая цёплая пагода. Большая часьць аўтораў уважае, што пад канаплі найлепш прыгодны супескававаты грубазерністы грунт; гэткі грунт быццам удзень хутка награваецца, а ўночы памалу ахаладжаецца. Мае гэта ўплыў на рост канапель, на мяккасьць, гібкасьць і вытрываласьць валакна. З угнаеньняў любяць канаплі асабліва поташ, вапну і добра перапрэлы перагной. У сухім клімаце і на гарыстых мясцох канаплі не ўдаюцца.

У параўнаньні з іншымі расьлінамі канаплі асабліва шмат патрабуюць вогкасьці (сырасьці), як з глебы, так і з паветра. Найбольш гэтае вогкасьці вымагаюць канаплі ў першых двух месяцах свайго росту. На сухім грунце канаплі растуць вельмі цяжка, на іх нападаюць масы зямных блох, валакно атрымоўуецца кароткае, крохкае. Найлепш родзяць канаплі пры частых, каротка трываючых дажджох, калі яны здараюцца пасьля цёплай сонешняй пагоды. Дзеля таго што канаплі патрабуюць дастатку вогкасьці і ў паветры, найлепш сеяць канаплі ў далінах рэк, рэчак, ставоў, асабліва ў зацішным месцы ад вятроў.

Калі гаварыць аб месцы канапель у гаспадарскім севазвароце, дык у дробных сялянскіх гаспадарках канаплі сеюцца па некалькі гадоў запарам самі па сабе на г. зв. канаплянішчах. Яны пакідаюць па сабе зямлю ў добрым стане, без пустазельля, а да таго, па канаплёх добра родзяць расьліны збажовыя, алейныя й інш. Хоць самі па сабе на добра ўгноенай зямлі канаплі і добра ўдаюцца, то ўсё-ж такі практыка паказвае, што канаплі лепш родзяць у севазвароце, пасьля матыльковых расьлінаў такіх як гарох, боб, канюшына, а так-жа пасьля акопнінаў.

Грунт пад каноплі павінен быць старанна аброблены, пачынаючы ўжо ўвосені. Восенская ворка памагае затрымаць у грунце больш цэннай зімовай вогкасьці, што для ўзросту кана-

---

viŭsia i i tym jašče, jak heta pazyčka budzie ŭ haspadarcy vykarystana: inšymi słovami, jon vučyŭ sialan haspadaryć pazyčanym hrašom. A heta ŭ sialanskich varunkach mnoha znača!

4. Urešcie važnaj prymietaj Raifajzenavych kooperatyvaŭ jość i toje, što jany vialikuju ŭvahu źviartajuć na toje, kab tvaryŭsia niepadzielny rezervovy fond, z katoraha z časam možna było-b i vydavać tannyja pazyki, biez zapazyčyvańnia na staranie.

Heta hałoŭnyja ideovyja staŭpy, na katorych Raifajzen budavaŭ sabie viečny pamiatnik u sarcoch patrabujučych pomačy, pracavitych choć i biednych ludziej.

Nia treba dumać, što ŭ pracy svajej spatykaŭsia Raifajzen z samym tolki zrazumieńniem. Mieŭ jon pieraškody, mieŭ praciŭnikaŭ — ale ŭmieŭ ich i pieramahać. A hałoŭnaje — žyŭ jon i pracavaŭ u paru, kali pryvatnaj inicyjatyvie i dobraj voli čałavieka nie supraćstaŭlaŭsia cełу aparat sarhanizavanaha ŭsiomaroziačaha biurokratyzmu tak, jak heta maje miesca ŭ „aśviečanym“ stahodździ dvaccatym.

*A.*

ную прад тым кару падкладкі нанова закладаем так, як яна была прад нарэзваньнем літары „т," прычым само вочка, разам з чаранком (трончыкам) ліста мусіць выставаць наверх. Калі гэта зроблена, тады абвіваем прышчэпленае месца лыкам так, каб вочка мела вольнае месца дзеля росту і замазваем ушчаповай масьцю.

На гэтым работа і кончыцца. Астаецца цяпер толькі дагледзіць, ці прышчэпліваньне прынялося. — Чаранок ліста праз 2—3 тыдні пажаўцее і адпадзе, а і самае лыка ў гэтым часе таксама можна ўжо адвязаць.

Прышчэпліваючы дрэва спосабам вочкаваньня, трэба сьцерагчыся, каб гэта вочка ня вырасла ў галінку да зімы тагосамага йшчэ году. Дзеля гэтага ня можна прышчэпліваць раней месяца жніўня, а і самае прышчэпліваньне трэба рабіць з паўночнага боку дрэўца, куды не даходзіць сонца і не пабуджае вочка да росту.

**В. Р.**



да дрэўцаў, на якіх ёсьць тля, нагібаць іх у пасудзіну і паласкаць у растворы. Калі скора пасьля паласканьня здарыцца дождж, дык паласканьне трэба паўтарыць. Гэты спосаб проціў тлі рахую самым найлепшым. Прыгатаўляць раствору можам менш ці больш, гледзячы, колькі трэба. Сьпірт-дэнатурат і зялёнае (шэрае) мыла трэба загадзя прызапасіць, а не тады старацца, як на дрэўцах будзе поўна тлі.

Паліўку дзічак навознай жыжкай ці іншы спосаб угнаеньня іх праз лета рахую шкодным: дзічкі пры гэтым, праўда, вырастуць большыя, але ўражлівыя на мароз.

**Іван Сікора.**

Сакавік 1938 году,
Алашкі-Малыя,
пош. і чыг. ст. Полава,
Пастаўскага пав., Віленскага ваев.

## Увага:

У гэтым месцы трэба прачытаць артыкул Ів. Сікоры, „Прыкопка дзічкоў на зіму і пасадка іх вясной у пітомніку," які друкаваўся сёлета ў „Самапомасы" №№ 1 і 2. — У кніжцы гэты артыкул будзе зьмешчаны цалком.

# Як і калі прышчэпліваць садовыя дрэвы?

Нашто прышчэпліваем садовае дрэва? Як і калі трэба прышчэпліваць? — На гэтыя два пытаньні пастараемся тут даць адказ.

Прышчэпліваем дрэва на тое, каб яго палепшыць, бо ніводнае дрэва ня будзе радзіць добрых пладоў, калі яго пакінуць расьці так, якім яно абышло з засеенага зярняці. Гэткае палепшаньне называюць прышчэпліваньнем дзеля таго, што растучаму дрэўцу, найчасьцей — маладой дзічцы, дадаюць (зашчэпліваюць) пры гэтым малую галінку з здаровага, добра растучага дрэва, якое пры гэтым родзіць добрыя плады. На гэту думку прышлі людзі тады, калі заўважылі, што дзьве галінкі дрэва зрастаюцца з сабой, калі іх шчыльна прылажыць да сябе жывым месцам, гэтак званай мяздрой, якая знаходзіцца зразу пад карой.—Для яснасьці дальшай гутаркі аб прышчэпліваньні, умовімся называць тое дрэўца, якое хочам палепшыць — **падкладкай**, а тую галінку (сучок), якую зразаем з добрародзячага дрэва і прышчэпліваем на падкладку — **зрэзам**, або прышчэпам (бо мы гэту галінку з р а з а е м).

Спосабаў прышчэпліваньня (датарнаваньня зрэзу да падкладкі) ёсьць некалькі. Усе яны аднак кіруюцца да аднэй мэты: каб зрэз як найхутчэй зросься з падкладкай. Рознаякасьць спосабаў прышчэпліваньня тлумачыцца тым, што выконваецца гэта работа ў розныя поры году ды што падкладка бывае рознай грубіні: інакш прышчэпліваем вясной, інакш—улетку, інакш —



Парадак работы пры спосабе вочкаваньня гэткі: запасіцца трэба ў добрае тонкае ліповае лыка (або рафію) і ў сёлетнія сільныя зрэзы (толькі не „ваўкі!") з здаровых добрародных дрэваў. Трэба памятаць, што зрэзы ў гэту (летнюю) пару вельмі чуткія на сухасьць,



**Прышчэпліваньне дрэваў спосабам вочкаваньня З—лева: вочка з сярэдзіны і з надворку. Далей у права: нарэзаная кара прад шчапленьнем і апошняе — дрэўца прышчэпленае і абвязанае лыкам.**

таму за раз трэба зрэзываць іх гэтулькі, колькі за адзін дзень можна выкарыстаць: зразу трэба абарваць з зрэзаў лісты, пакідаючы толькі трончыкі, і ўставіць у збан з вадой, каб ня вянулі. Вочкі на зрэзах выбраных да прышчэпліваньня павінны быць грубыя і набрыняўшыя, а знаходзяцца яны пад неабарванымі трончыкамі лістоў.

Дальшы поступ працы гэткі: —

Пень прышчэпліванай падстаўкі абціраецца чыстай намочанай у вадзе шматкай. На абцёртай гэтак кары нарэзваецца вострым нажом літара „т" так, як гэта паказана на рысунку, а сама кара асьцярожна адхінаецца. Тады бярэцца з збана галінка зрэзу і з яе вырэзваецца вочка так, каб пад ім разам з карой было і крыху маладога дрэва (мяздры). Гэтак вырэзанае вочка асьцярожна ўкладаем за адхіленую кару прышчэпліванай падстаўкі так, каб спад яе выглядала наверх толькі самае вочка. Лішнюю кару вырэзаную з вочкам, якая ня месьціцца пад карой падкладкі, абрэзваем, а адхіле

ваецца і абмазваецца ўшчаповай масьцю, як пры кажухаваньні. — Пры прышчэпліваньні ў шпару роўна зрэзаная — як пры кажухаваньні—падстаўка расшчэпліваецца зьверху нажом і ў гэты расшчэп устаўляецца загадзя прыгатаваны зрэз, канец каторага на плоска абструганы з двух бакоў. Месца, дзе зрэз злучаецца з падстаўкай, старанна абмазваецца ўшчаповай масьцю і лёгка абвязваецца.

Кажухаваньне, прышчэпліваньне на прыстаўку і ў шпару можна рабіць толькі ў пару, калі ёсьць у дрэве сок, прычым падстаўка заўсяды мусіць быць грубейшая як зрэз.

Агульная ўрэшце ўвага да разгледжаных вышэй спосабаў прышчэпліваньня — каб ні ў якім выпадку ня прышчэпліваць „прабуджанага“ зрэзу, асабліва ж, калі падкладка йшчэ „сьпіць“ (ня мае соку), бо тады прышчэплены зрэз адразу патрабуе шмат соку, а не знайшоўшы яго — замірае з голаду. Таму зрэзы трэба старанна хаваць ад доступу цяпла.

4. Апошнім ўрэшце спосабам прышчэпліваньня пладовых дрэваў, паказаным на бачыне 23-яй, ёсьць гэтак званае **вочкаваньне.** Называецца яно так дзеля таго, што на падкладку прышчэпліваецца ня цэлы сучок (зрэз) з некалькімі вочкамі, а толькі адно **вочка.** Гэты спосаб прышчэпліваньня ўжываецца ўлетку, праз увесь месяц жнівень, калі сокі другі раз прыплываюць у дрэва (першы раз прыплывае сок раньняй вясной). Найлепш ужываць гэтага спосабу да падкладак маладых з тонкай карой; на падкладцы старэйшай прышчэпліванае вочка прыжывае вельмі цяжка.

Першай справай пры вочкаваньні ёсьць: даведацца, ці ёсьць у дрэве сок. Дзеля гэтага на падкладцы празначанай да прышчэпліваньня вострым нажом разрэзваем накрыж кару аж да жывога дрэва і прабуем, ці гэта кара лёгка адстае: калі так, дык знача сок ёсьць і шчапіць можна: калі-ж кара не адстае і толькі раздзярэцца, дык знача соку няма.



на падкладку маладую (тонкую), інакш — на старую (грубую). — Само прышчэпліваньне ня ёсьць працай цяжкай, але вымагае пэўнага спрыту, упраўкі, якую ня можна здабыць ні чытаньнем, ні нават беспасярэднім глядзеньнем як нехта іншы гэту работу робіць: навучыцца добра прышчэпліваць можна толькі самай працай. Каб-жа не псаваць лішне жывога матар'ялу, найлепш вучыцца прышчэпліваньня складаючы адпаведна два кускі галінкі звычайнага лазьняка, вербы ці нечага падобнага. Калі гэта праца ўжо пойдзе гладка, тады бяз страху можна прыступаць да самага прышчэпліваньня сапраўднага.

На пададзеных(бач.21, 23)рысунках паказаны некаторыя найбольш пашыраныя спосабы прышчэпліваньня: злучаньне, кажухаваньне, вочкаваньне. Пераглядзім гэтыя спосабы папарадку.

1. Спосаб **злучаньня** паказаны зьлева (першыя тры галінкі): першая галінка — зрэз, другая — падстаўка, трэцяя — зрэз злучаны з падстаўкай. Спосаб гэты вельмі просты і добры, але магчымы толькі тады, калі і падстаўка і зрэз бываюць аднолькавай грубіні. Асаблівасьцяй спосабу злучаньня ёсьць тое, што яго можна стасаваць і вельмі раньняй вясной, калі ў дрэве йшчэ не зварушыўся сок. Парадак працы гэткі: падстаўку і зрэз зразаем в о с т р ы м нажом наўскос так, каб плошча зразаньня была як можна даўжэйшая. На зрэзе мусіць быць 2—3 здаровыя вочкі, прычым адно з іх павінна знаходзіцца насупраць самага месца зразаньня. Зрэзаўшы гэтак падстаўку (пянёк) і зрэз, складаем іх як можна найшчыльней, стараючыся, **каб як найдаўжэйшы паясок кары зрэзу злучаўся з такім-жа паяском падстаўкі (пня).** Каб злучаны зрэз мацней сядзеў на падстаўцы, робяць часам на іх зубцы, каторымі абедзьве спалучаныя веткі дакладка зазубляюцца. — Калі гэта зроблена, прыкладаем зрэз на падстаўку і, прытрымліваючы іх двума пальцамі левай рукі, правай рукой акручваем месца злучэньня старанна і моцна ліповым лыкам або гэтак званай рафіяй

(лыкам з пальмовага дрэва) і дакладна замазываем усё берагі ўшчаповай масьцю, каб усярэдзіну не даставалася паветра: гэта памагае хуткаму зрастаньню. Усю працу пры шчапленьні трэба выконываць скора, не марудзячы, каб ня высыхалі ні зразы, ні падкладкі. Дзеля гэтага-ж ня можна шчапіць у гарачы сонечны дзень і калі пагода стаіць добрая, дык прышчэпліваць трэба або рана да 9-ай гадзіны, або паабедзе ад гадзіны 4-тай уніз.

2. Найлягчэйшым і таксама вельмі пашыраным спосабам прышчэпліваньня ёсьць гэт. званае **кажухаваньне.** Стасуецца гэты спосаб аднак толькі тады, калі падкладка грубейшая (старэйшая), як прышчэп (зрэз); прышчэпліваць спосабам кажухаваньня можна толькі тады, калі ў дрэве пойдзе сок і кара лёгка адстае ад дрэва (м-ц красавік). На рысунку спосаб кажухаваньня паказаны чатырма верхнімі фігурамі з правага боку. Падкладка пры гэтым роўна зразаецца. Адначасна прыгатаўляецца і зрэз седлаватым клінком так, як гэта паказана на рысунку, абапал грубейшага пня. Калі зрэз гатовы, дык каб ён ня высах, прамываем ў вадзе і бяром у губу, а на падкладцы ад самага верху ўніз большменш на адну пядзю разразаем роўна кару, крыху яе адхіляем і шчыльна прыкладаем загадзя прыгатаваны зрэз. Тады адхіленую кару захіляем узноў і прыціскаючы левай рукой, правай абкручываем так, як гэта паказана на апошняй фігурцы з правага боку. Гэтак асаджаны прышчэп старанна замазываем ушчаповай масьцю і работа скончана.

3. Падобным да кажухаваньня ёсьць яшчэ **прышчэпліваньне на прыстаўку,** а так-жа прышчэпліваньне **ў шпару.** Гэтых спосабаў на рысунку няма, але яны ў шмат чым падобныя да кажухаваньня. Розьніцца-ж такое, напрыклад, прышчэпліваньне на прыстаўку ад кажухаваньня тым толькі, што на падкладцы ня толькі адлупліваецца кара, але ў ёй (у падкладцы) вырэзваецца з боку равок, у каторы пасьля ўсаджваецца адпаведна абрэзаны зрэз, які пасьля таксама зьвяз-





Прышчэпліваньне дрэваў спосабам: а) злучаньня (першыя тры фігуркі з — лева) і б) кажухаваньня (чатыры фігуркі з — права).

пель, у пачатку іхняга разьвіцьця, ёсьць справай вельмі важнай. Глыбокая ворка на 20—35 см. патрэбная дзеля таго, каб па магчымасьці найглыбей у зямлю пранікала вольнае паветра, якое ажыўляе чыннасьць бактэрыяў і іншых дробнатвораў, а так-жа раскладае расьлінныя й жывёльныя сучасткі глебы. Шмат хто нават цьвердзіць, што для канапель больш важным ёсьць належнае апрацаваньне глебы, чым ейнае дагнойваньне. Вясной аднак з плугам на поле пад канаплі ўжо йсьці позна. Плуг павінен кончыць сваю работу ўжо ўвосені, а вясной трэба ўжо толькі агранічыцца спульхняньнем грунту пры помачы культыватара. Ашчаджаецца гэтак цэнная вогкасьць у глебе, насеньне хутка ўсходзіць і расьце ў моцнае каліва.

Сказана было ўжо, што канаплі патрабуюць добрага з натуры і багата ўгноенага грунту. Акрамя добра перапрэлага гною хляўнога, патрабуюць яшчэ канаплі ўгнаеньня штучнага. На гэктар даюць пад канаплі да 600 q гною хляўнога — найлепш конскага ці авечага, да 200 клг. 40 проц. паташавай солі ды 200—300 клг. супэрфосфату на грунтох бедных на фосфар. Вапны канаплі патрабуюць, але калі гэтае вапны ў глебе за шмат, дык тады валакно бывае ломкае і шорсткае. Адносна хляўнога гною трэба зазначыць, што гной спад скаціны (быдла) пад канаплі не падходзіць; гэткі скацінны гной за зімны і калі-б ня было іншага выхаду, дык яго можна было-б толькі мяшаць з гноем конскім.

Урэшце колькі слоў аб падборы пасеўнага насеньня канапель, вельмі чуткага як на ўсякае пакалечаньне, так і на лішкі непатрэбнай у ім вады. Да засеву можна браць насеньне канапель толькі аднагодняе, бо старэйшае траціць на ўсходлівасьці. Належна пасеенае каноплянае насеньне пры тэмпэратуры 8—10°Ц усходзіць ужо па 4—5 днёх. Ранейшы пасеў канапель мае тую вышшасьць прад пазьнейшым, што: 1. лепш выкарыстоўвуе зімовую вогкасьць глебы і 2. хутчэй перарастае тую пару, калі канапляи шкодзіць успомненая ўжо зямная блыха. Таму сеяць трэба канаплі не пазьней другой паловы м-ца мая.

Колькі высейваецца канапель на гэктар, залежа ад таго, ці яны сеюцца з 3 рукі і на шырака, ці з сеялкі і ў радкі, а так-жа ад таго, ці гадуюцца канаплі на насеньне ці на валакно. Сеючы шырака на валакно, на гэктар высейваюць аж 160 клг., а з сеялкі 120 клг. Пры гадаваньні канапель на зерне трэба сеяць радзей: сеючы на шырака — 90 клг., а з сеялкі — 70 клг.

А. К.

# Litoŭskaja haspadarka.

U suviazi z naviazańniem pamiž Litvoj i Polščaj dyplomatyčnych znosinaŭ, u hazetach poŭna roznych apisańniaŭ Litvy. My tut zatrymajemsia tolki nad viestkami z haliny žyćcia haspadarskaha.

Vot-ža sučasnaja Litoŭskaja Respublika zajmaje abšar 55.670 kv. klm. Na hetym abšary žyvie bolš 2.560.000 žycharoŭ, z katorych 77 prac. zaniata ŭ ziemlarobstvie, 6 prac. — u promyśle i ramiaśle, niacełyja 3 prac. — u handli, 3 prac. — roznych čynoŭnikaŭ i volnych prafesyjanałaŭ i 11 prac. - inš. Ahułam možna rachavać Litvu jak kraj vyrazna ziemlarobski.

Klimat i hleba Litvy vielmi padobnyja da klimatu j hleby Vilenščyny. Bahaciejšyja hleby hliniastyja i pšaničnaburačanyja znachodziacca tolki abapał rek Dubissy i Nieviažy dy pa levaj staranie raki Niomna ŭ pavietach Vilkavišskim, Maryjampalskim i Šakienskim.

Sialanie litoŭskija heta drobnyja ziemlaroby, ale heta „drobnaść" redka kali apadaje nižej 10 ha. Stan haspadarski litoŭskich sialan vielmi ŭzmohsia ad taho času, kali Litva pačała žyć svaim niezaležnym žyćciom i kali pačali parcelavać usie dvary, kali abšar ich pieravyžšaje 150 ha. Što heta parcelacyja jdzie nie na dzika, a z ćviordym namysłam, pakazvaje choć-by toje, što adnačasna adbyvajecca komasacyja (chutaryzacyja) i melioracyja (hałoŭnym čynam asušańnie). Siahońnia ŭžo 5/6 usich sialanskich haspadarak u Litvie heta skomasavanyja chutary. Rachujuć, što i heta rešta najdaŭžej za try hady budzie taksama skomasavanaja.

Da niadaŭna ahulna ŭvažałasia, što Litva moža hadavać u siabie tolki zboža dy niekatoryja hatunki pašnych raślinaŭ.

# Салодкі лубін.

Аднэй з галоўных прычын, чаму ня можа ў нас належна разьвіцца жывёлагадоўля, ёсьць перад усім тое, што нашы гаспадары за мала гадуюць у сябе пашных расьлінаў. На глебах лепшых, на якіх добра родзяць блізу ўсе гаспадарскія расьліны, там труднасьці гэтыя меншыя, бо ўраджаі на гэтых глебах большыя. Затое ў гаспадарках з глебамі лягчэйшымі, дзе не растуць ані канюшына, ані стручковыя расьліны(напр.:віка, люцэрна), ані тымбольш буракі, там недахоп ня толькі сена, але нават саломы ёсьць зьявішчам блізу сталым, штогоднім.

На гэткіх лёгкіх глебах добра ўдаецца, як ведама, лубін. Але лубін мае тую благую свомасьць, што ягоныя як сьцёблы, так і зерняты маюць у сабе атрутныя сучасткі. Зерняты лубіну адгарчаюцца, але праца пры гэтым бывае ня лёгкай, а калі правесьці яе нядбала, дык бывае шмат стратаў. Дзеля гэтага зялёны лубін ужываўся дагэтуль у гаспадарцы толькі як угнаеньне, а зярняты, якія маюць у сабе шмат бялкоў, ужываліся толькі як паша для рыбы.

Толькі ў апошніх гадох, дзякуючы доўгай дасьледчай працы ў розных краёх, перад усім у Нямеччыне, удалося выгадаваць новы сорт г. зв. салодкага лубіну, каторы хоць і мае ў сабе атрутныя сучасткі, але іх ня так шмат, каб гэта шкодзіла пры скормліваньні зерня ці самага толькі зялёнага націньня. Паза гэтым салодкі лубін захоўвуе ў сабе ўсе свомасьці лубіну звычайнага, г. зн. у струпкох на карэньнях сваіх зьбірае з паветра вольны азот; дзякуючы гэтай свомасьці салодкі лубін*) можа быць уважаны як расьліна гнойная, што асабліва й цэнным ёсьць на глебах лёгкіх, на якіх іншыя расьліны не ўдаюцца. Націньне такога лубіну можа служыць як корм для жывёлы, а зерне, змолатае на шрот, таксама скармліваецца. На прыараным у зямлі карэньні, на каторым астаюцца струпкі з азотам, асабліва па лубіне скормленым на зялёна, можна сеяць збожа так, як і на лубіне звычайным.

З усяго сказанага вынікае, што салодкі лубін пры дальшым палепшываньню ягоных свомасьцяў, можа стацца проста неацэненай расьлінай, асабліва на глебах лёгкіх, на каторыя так трудна падабраць расьліны пашныя. Варта дзеля таго, каб нашы гаспадары з лёгкіх перад усім грунтоў пачалі прабаваць гадаваць у сябе салодкі лубін, на пача-

*) Ня трэба думаць, што „салодкі" лубін ёсьць сапраўды салодкім: ён „салодкі" толькі на гэтулькі, што не такі горкі, як лубін звычайны.

---

Voś-ža, niezaležny byt Litvy i tut pakazaŭ, što ŭ krainie hetaj možna tak-ža siejać i hadavać takija vymahalnyja raśliny, jak pšanica i navat cukrovy burak. Hetaha apošniaha, litoŭcy majuć siahońnia hetulki, što sami sabie mohuć vyrablać udoval cukru, jakoha pierš zusim nia mieli.

Toje samaje dziejecca ciapier ŭ halinach inšych. Tut u pieršuju čarhu treba ŭspomnić ab pradukcyi žyviołahadaŭlanaj: koni, karovy, śvini i inš. Litoŭskija „žmudzkija" koni (lohkija, pracoŭnyja) majuć dobruju marku nia tolki ŭ siabie doma, ale i zahranicaj, jak Holandyja, Belhija, Danija. U hod z Litvy ŭ hetyja krainy vyvoziać koniaŭ na 8—15 mil. litaŭ.

Važniejšaj adnak jošć hadoŭla skaciny, pierad usim małočnaj. Jak heta sprava ŭ Litvie raźvivajecca, vidać choćby z taho, što kali jšče ŭ 1924 h. z Litvy było vyviezienа 524 000 klh. masła na sumu 4 mil. litaŭ,*) dyk u 1937 h. było vyviezienа 14.985.800 klh. masła na ahulnuju sumu 38.150.000 litaŭ. Blizu ŭsia pradukcyja i vyvaz małačarskich praduktaŭ sarhanizavana sposabam kooperatyŭnym. Blizu ŭsie litoŭskija małačarni zmechanizavanyja. Sarhanizavany jany ŭ adzin mahutny sajuz „Pienocentras," katory akramia taho zajmajecca jšče skupam, mahazynavańniem i eksportam jajok, a tak-ža skupam i pieratvorstvam usiakaj sadoviny.

Nia mienšaje značeńnie maje tak-ža ŭ litoŭskaj haspadarcy śvinahadoŭla, asabliva ad času, kali prad 15-ciu hadami sarhanizavana była akcyjnaja supałka (sialan i skarbu) „Maistas," jakaja adna tolki maje 5 fabryk dziela pierarobki be-

*) lit - heta adzinka litoŭskich hrošaŭ, jahonaja vartaść kala 50 hrašoŭ.

так хоць-бы толькі па зусім малой порцыі. Месца пад салодкі лубін трэба выбраць такое, каб прынамся на поўкілёмэтра кругом ня было пасеена лубіну звычайнага, сіняга. Канешнае гэта дзеля таго, каб не настала шкоднае ў такім выпадку крыжаваньне, бо йнакш салодкі лубін узноў „зьдзічэе“, г. зн. станецца „горкім“. Добра так-жа, калі ўдасца выбраць пад салодкі лубін такое поле, на каторым прынамся тры папярэднія гады ня сеяўся звычайны лубін „горкі“. Паза гэтым спосаб гадаваньня салодкага лубіну ні чым ня розьніцца ад лубіну горкага. Зямля пад яго павінна быць глыбака ўзарана на зіму. Памагае гэта лубіну добра закарэніцца. З угнаеньня пад лубін найбольш аплачваецца ўгнаеньне поташам (каініт, поташавая соль).

Як важнай і карыснай у гаспадарцы расьлінай ёсьць лубін, відаць хоць-бы з таго, што ў такой Нямеччыне, дзе салодкі лубін ужо добра выпрабавалі, ад 1940 г. законам мае быць забаронена сеяць іншы лубін, як толькі салодкі.

*З. К.*

# ГАДУЙМА ІНДЫКОЎ!

Хто бывае часьцей на рынку, прад вялікімі асабліва сьвяткамі, той ведае, якую цану маюць індыкі. З другога боку аднак не адзін хіба чуў і аб тым, як часта гадоўля індыкоў не ўдаецца. Вотжа варта дзеля гэтага да справы прыглядзіцца больш беспасярэдна.

Праўда, што за добра выгадаваных індыкоў дорага плацяць, але добра выгадаваць іх ня кожны адразу патрапіць. Перад усім справа падбору яец дзеля пасадкі пад індычку. Яйко яйку ня роўнае, а з яйка па заморанымі няўдалым індыку ня можна спадзявацца й здаровых індычанят. Таму, пачынаючы гадаваць індыкоў, наўперад трэба агледзіцца, ці будзе для іх месца на пасьбішча (выган), а тады старанна пашукаць заручана добрых яец, ад рослых, здаровых індыкоў. Там-жа, дзе індыкоў ужо гадуюць, трэба падумаць аб тым, каб часьцей зьмяняць індыкоў-самцоў, дзеля асьвяжэньня крыві. Гэта ёсьць першыя два варункі ўдачы гадоўлі індыкоў. А далей?

Выпрактыкаваныя ў гэтым кірунку фэрмэры амэрыканскія пры гадаваньні індыкоў паступаюць гэтак:

Нававыклюнутыя з яец індычаты праз 36 гадзін не дастаюць ніякай пашы. Першай пашай для іх па гэтым часе ёсьць на цьвёрда зваранае яйко, на

---

konaŭ i inšych praduktaŭ (skacina, chatnija ptuški, trusy). Za 1937 hod supałka heta vyviezła za hranicu tavaru na sumu 46.811.500 litaŭ.

Trecim važnym haspadarskim centram sučasnaj Litvy jość sajuz litoŭskich spažyvieckich kooperatyvaŭ „Lietukis,“ jaki apravizujučy litoŭskich sialan uva ŭsie pradukty pieršaj patreby jak u chacie, tak i ŭ haspadarcy ziemlarobskaj, z haspadarak hetych skuplivaje i vyvozić zahranicu zboža i inšy syrec. „Lietukis“ (skaročanaje značeńnie „litoŭski haspadar“) u Koŭnie i ŭ Kłajpedzie (=morski port) maje ahramadnyja elevatary, a na čyhunačnych stancyjach i ŭ pavietavych haradoch — mahazyny. Skuplivańniem ad imia Lietukis'a zajmajucca miascovyja haspadarskija kooperatyvy, a pry mahazynach — pradstaŭniki samaha Sajuzu „Lietukis.“

Havoračy ab arhanizacyi vyvazu z Litvy praduktaŭ ziemlarobskaj vytvorčaści treba zaznačyć, što hetyja pradukty vielmi vysokaj vartaści i tamu nia tolki łohka ŭtrymoŭvujucca na raz zdabytym rynku, ale stała zdabyvajuć rynki novyja. Što heta tak, pakazvaje choć-by taki fakt, što litoŭskaje masła pačynaje ŭžo navat vyciaśniać z tak pieraborlivaha rynku, jak rynak anhlicki, masła navat Danskaje. A heta vielmi dobra śviedčyć ab salidnaści litoŭskaj raboty. Dajšli-ž da hetaha litoŭcy dziakujučy tamu, što zaviali ŭ siabie adrazu vostruju kantrolu („standaryzacyju“) kožnaha vyvožanaha zahranicu tavaru.

Jasnaja reč, što hetki postup u ziemlarobskaj haspadarcy Litvy nia pryjšoŭ sam saboj: usio heta jość pładom biazupynnaj pracy jejnych žycharoŭ, stałaha davučvyvańnia, nu i — razumnaj haspadarskaj palityki svajho sobskaha ŭradu i samaŭradu.

дробна парэзанае, зьмяшанае з сьвежым тварагом, на дробна пасечанай салатай, маладой крапівай, крываўнікам. Гэтак кормяцца індычаты праз цэлыя першыя 5 дзён, пры чым спачатку ім паша даецца чатыры, а пасьля пяць разоў у дзень. Заўсяды пры гэтым трэба ўважаць, каб індычаты **не пераядаліся**, бо гэта ім шкодзіць.

Па тыдні часу склад пашы індычат мяняецца. Яны кормяцца ўжо мешанкай прыгатаванай у гэткай прапорцыі: кілёграм вараных круп з кукурузы мяшаецца з поўкілёграмам круп („шроту") аўсяных. Да гэтага дадаецца паўкілёграма вараных адпадкаў рознага мяса (з бойні) перапушчаных праз машынку да крышэньня мяса. Урэшце ў гэту мешаніну дадаецца йшчэ: на канцы нажа шчыпотку перацёртага перцу, гэтулькі-ж кухоннай солі, чыстай соды (пітной), пасечанай зялёнай цыбулі, крапівы, мяты і палыну. Калі атрымаецца мешаніна лішне рэдкая, дык да яе дадаюцца пшанічныя атрубы і пакрышаныя сухары хлеба. Гэткую пашу, з дамешкай тварагу, можна даваць індычатам да шасьцёх тыдняў, пры чым замест круп з кукурузы можна даваць крупы аўсяныя, просяныя ці ячменныя, а так-жа крыху варанай бульбы. Адны гадаўцы такую пашу даюць гатаваную, а другія адразу прывыкаюць індычат да сырых сухіх дробных круп, дадаючы да іх заўсяды пахучага зельля, аб якім ужо ўспаміналі. Тварог і кіслае малако да пiцьця для індычат заўсяды вельмі пажаданыя.

Урэшце яшчэ раз зазначыць трэба, што індыком вельмі шкодзіць непагадзь і дождж. Таму на выганах ім трэба канешна прыгатаваць будкі, у каторыя яны маглі-б у разе патрэбы хутка схавацца.

*Ш. С.*

# Кармленьне рабочага каня

Чым менш гаспадар мае пашы, тым ашчадней павінен яе ўжываць, каб не марнавалася. Калі жывёла ня выкарыстае падаванай ей пашы, дык гэту пашу можна лічыць змарнаванай. Таму трэба на кармленьне жывёлы зьвярнуць увагу. Тут-жа спэцыяльна займемся справай кармленьня рабочага каня.

Конь мае малы трыбух і йнакш збудаваны чым напр. у скаціны. Таму ня можа ён адразу прыймаць шмат пашы. Як толькі конь напоўніць свой трыбух, павінен мець час прынятую пашу пераравіць. Найлепш было-б дзеля таго карміць коняў малымі порцыямі, але часта. Але ў гаспадарцы гэта немагчыма, бо часта прыйшлося-б перарываць

---

Fachova ziemlarobskimi spravami va ŭsioj Litvie kiruje Ziemlarobskaja Pałata ŭ Koŭnie. Vyvučvańniem ahranomaŭ zajmajmajecca Ziemlarobskaja Akademija ŭ Datnavie, jakaja maje addziełv: ahulnaziemlarobski, ekanamičny i chatniaj haspadarki. A što ahranomaŭ Litva patrabuje niamała, vidać choć-by z taho, što aprača Kłajpedzkaha aŭtanomičnaha vokruhu, u 21 pavietach jość hetulki-ž ahranomaŭ pavietavych, 80 ahranomaŭ rajonnych, pamacnikoŭ, praktykantaŭ. A kolki-ž fachovych sił patrabujuć biazlikija haspadarskija sajuzy, tavarystvy, kooperatyvy, nie havoračy ŭžo ab tym, što pasi-rod samych pryvatnych haspadaroŭ usio čaściej i čaściej spatykajucca takija, jakija taksama pavinny mieć vyšejšuju fachovuju aśvietu?!

Akramia Akademii ŭ Datnavie, jość jašče ŭ Litvie čatyry ziemlarobskija škoły siarednija i 15—nižejšych. Pry hetych apošnich što hod arhanizujucca dla starejšych haspadaroŭ 5-ci miesiačnyja haspadarskija kursy.

Ale ŭsiaho hetaha adnak jašče mała. Litoŭski ziemlarob nikoli nie pierastaje vučycca. Dokazam hetaha jość vielmi raźvitaje čytańnie fachovych i ahulna-aśvietnych knižak i časapisaŭ. Dokazam hetaha jość choć-by taki fakt, što haspadarski časapis „Ukininko Patarejas" (haspadarski daradčyk) vychodzić dvojčy ŭ tydzień) i raschodzicca ŭ 80.000 ekzemplarach!..

Jaki-ž heta pavučalny prykład i dla našych, biełaruskich ziemlarobaŭ!

S. Š.

працу. Дзеля таго трэба прынамся даваць каню паміж паадзінокімі кармленьнямі аднолькова доўгі час на пераваўленьне прынятае пашы. Калі напр. у дзень кормім каня а гадз. 12-ай, а другі раз — увечары а гадз. 8-ай, дык трэці раз трэба карміць яго а гадз. 4-тай рана. Гэтак цэлая пара (суткі) дзеліцца на тры роўныя часьці, па 8 гадзін у кожнай, а коні да яго вельмі хутка прывыкаюць.

У практыцы, асабліва ўзімку, адступленьні бываюць даволі частыя. Дзень кароткі, ноч даўгая, дзеля чаго ўвечары даецца ім паша ўжо а гадз. 4-ай, а раніцай толькі каля 5-6 гадз. Пры лішне кароткім часе конь ня можа добра пераправіць прынятай пашы, а пры лішне доўгім часе — стаіць галодны і часам бярэцца нават за падсьцілку. А калі рана, цераз 14 гадзін (ад 4 па абедзе да 6—7 рана) гаспадар падае аброк, а конь ужо ня есьць, дык дзівіцца, скуль гэта і чаму. Натуральна, такі конь, наеўшыся з голаду саломы, папросту ня мае месца на аброк і таму хоць есьці хоча і патрабуе, то аднак ніяк ужо ня можа. У рэзультаце астаецца галодным і зьбіваецца з сіл. І наадварот, практыка колькі разоў ужо сьцьвердзіла, як коні „на вачах“ папраўляліся, як толькі пачалі іх карміць у роўных одступах часу. Шмат таксама можам заашчадзіць пашы, калі аснаўны аброк: авёс, бульба параная, вотрубы, дакладна зьмяшаюцца не з кароткай, але з доўгай сечкай (3-5 см). Конь ня можа тады палыкаць пашы, але мусіць яе дакладна прасьлініць і пераважваць, а гэта будзе мець уплыў на лепшае выкарыстаньне пашы. Таксама сена трэба даваць ня цэлым, але парэзанае на доўгую сечку, бо такую толькі сечку конь зможа дакладна пераважаваць, а з сена непарэзанага выбірае смачнейшыя часьці і шмат непатрэбна павыкідае. Дакладныя дасьледаваньні і падлічэньні нязьбітна паказалі, што падаваньне сена парэзанага на доўгую сечку дае ашчаднасьці аж 30 прац. Іншымі словамі, хто дае цэлага (непарэзанага на сечку) сена напр. 3 пуды, той выкарыстоўвуе толькі 2 пуды, а трэці пуд прападае дарма. Важна ведаць аб гэтым заўсяды, а тымбольш у год так бедны на пашу, як гэта мае месца сёлета.

*Паг.*

# Гаспадарская хроніка

**Жалеза ў Налібаках.** Анагдай вярнулася ў Вільню навуковая экспэдыцыя Геолёгічнага Інстытытуту мясцовага Унівэрсытэту, якая, супольна з прадстаўнікамі Віленскай Прамысловай Палаты, вяла досьледы над адкрытымі ў Налібацкай Пушчы запасамі жалезнай руды. Лябараторыйныя аблічэньні паказалі, што руда гэта мае ў сабе ад 30 да 40 прац. чыстага жалеза. Самай-жа руды ў адным толькі месцы адкрыцьця налічаюць да 40.000 тоннаў. У зьвязку з гэтым Віленская Прамысловая Палата мае прыступіць да апрацаваньня спосабаў эксплёатацыі (дабываньня й пераплаўляньня) мясцовай жалезнай руды.

**Дзень Коопэрацыі** ў Польшчы сёлета будуць сьвяткаваць у нядзелю 12 чэрвеня. — Хацелі-б мы спадзявацца, каб сёлетняя адозва Цэнтр. Камітэту Дня Коопэрацыі была больш тактоўная, чым адозва леташняя.

**Коні для войска падаражэлі.** Саюз гадаўцоў коняў паведамляе, што сёлета цэны на коняў для войска падняты ў сярэднім на каля 157 зл. Таксама больш маюць сёлета купляць і коняў: ужо да 1.IX маюць выкупіць 90 прац. таго, колькі куплялі летась за цэлы год.

**Дарогі ў Віленшчыне,** запушчаныя за апошнія два з лішнім дзесяткі гадоў, маюць урэшце дачакацца папраўкі і разбудовы. Мае гэта сувязь з нявязанымі зносінамі з Літвою. Таму пад увагу ўзяты дарогі, якія кіруюцца ў Літву. У першую чаргу ўзяты ў плян дарогі: 1. Рыконты—Завесы, 2. Вільня—Мэйшагола—Яўнюны, 3. Эйшышкі—Ораны—Варэны і 4. Аўгустова—Сувалкі—Шыпілішкі. На гэту мэту ўжо асыгнаваны і адпаведнія грошы.

**Электроўня (на Вяльлі) ў Турнішках** пад Вільняй мае быць пабудавана замест дагэтуль праектаванай электроні ў Шыланах. Мае быць гэта вялікая гыдроэлектроўня, у якой мае быць выкарыстаны „белы вугаль" (сіла вады) і якая мае даваць танную электрычную сілу ня толькі для самай Вільні, але і дальшай нават аколіцы. Гэту сілу можна будзе карыстаць ня толькі для асьвятленьня, але і для пагону розных машынаў, што важным ёсьць як у промысьле, так нават і ў земляробскай гаспадарцы.

**На работу ў Эстонію і Латвію.** Сёлета акрамя Латвіі, якая ўжо даўно вэрбуе да сябе нашых работнікаў, зьявілася на нашым рынку працы яшчэ і Эстонія. З аднае толькі Дзісеншчыны анагдай выехала на работу ў Эстонію каля 2 тысяч чалавек. Блізу гэтулькі трэба спадзявацца што выедзе з гэтага-ж району і ў Латвію. А яшчэ-ш у запасе: Пастаўшчына, Сьвянцяншчына і Браслаўшчына.

## Цэны ў Вільні

*13.IV.38 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта | 17.50—18.75 |
| Пшаніца | 24.75—26.75 |
| Ячмень | 15.50—17.00 |
| Авёс | 17.00—18.50 |
| Грачыха | 16.00—17.00 |
| Семя лянное Ь. 90% | 43.00—44.00 |
| Лён трапаны, Валож.(1.000 к.) | 1490—1530 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1940—1980 |
| Лён трапаны Трабы | 1490—1530 |
| Лён трапаны, Мёры | 1430—1470 |
| Лён часаны Гародзей | 2120—2160 |
| Кудзеля Гародзейская | 1520—1590 |

## У клопаце

— Вот-бы так са два дні цёплыя, дык усё з зямлі і павылазе.

— А бойся Бога! Я-ж маю ў зямлі дзьве жонкі.

„Самапомач" выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пера-казам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС"

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.